


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 44 (1079) БЕЛАСТОК 31 КАСТРЫЧНІКА 1976 г. ЦАНА 60 гр.


## Новыя вершы

*Я ўзрос у краях,*
*дзе вочы*
*Васільковаю сінню абліты,*
*Дзе гарачы погляд дзявочы*
*З сонца выткань і з блакіту.*

*Я ўзрос у краях,*
*якія,*
*Бы загадкавы сказ былінны,*
*Без якога, як без крыві, я*
*Не змагу пражыць ні хвіліны.*

**Мікола Аляхновіч**

# На прыёме ў начальніка гміны

Начальнік гміннага ўпраўлення ў Гарадку **Аляксандр Бура** прымае інтарасантаў у кожны аўторак.

Адрываючыся ад чарговага тэлефона, ён звяртаецца да мяне:

— Калі ў мяне дзень прыёму інтарасантаў, так, як сёння, дык няма часу нават на перадышку.

І сапраўды, вось Ян Казбярук, селянін з вёскі Падазераны, ужо ад дзвярэй працягвае начальніку нейкую задрукаваную паперку.

— Пане начальнік, — гаворыць усхваляваным голасам, — да чаго ж гэта падобнае, каб мяне караць за збожжа! То ж я стараюся, каб мая гаспадарка была на высокім узроўні, чатыры бычкі вось узяў на адкорм з міхалоўскай СКР, а вы мне кару прысылаеце за жыта!

— Бо вы не адабралі з ГС-у аніводнага кілаграма высакаякаснага насеннага жыта на планавыя аднаўленні пасяўнога матэрыялу, хаця абавязаны былі выкупіць у ГС-е чатыры цэнтнеры насення, — паясняе начальнік.

— Я ж сваім пасеяў...

— І дрэнна зрабілі, — гаворыць начальнік, — бо калі ёсць у гміне планавае аднаўленне, дык гэта закон, якога ламаць нельга...

Трывожна адазваўся тэлефон. Завязалася доўгая, не зусім ветлівая, службовая гутарка. Селянін энергічна накіраваўся да выхаду.

З тэлефоннай гутаркі зразумеў я, што кіраўнік мясцовага цэнтра аховы здароўя дапамінаўся ў начальніка пастаўкі вугалю, каб было чым абаграваць лекарскія прыёмныя. Начальнік у сваю чаргу адказваў яму, што транспарт вугалю накіраваў да іх яшчэ летам, аднак яны не хацелі яго браць, а цяпер начальнік вугалю не мае і не ведае, калі будзе.

Не паспеў ён адкласці яшчэ тэлефонную трубку, а ў кабінеце ўжо паявіўся старэнькі, пасівелы Пётр Савіцкі з Гарадка, якому зараз 77 гадоў.

— Калі ласка, сядайце, — папрасіў яго начальнік.

— Я лепш пастаю, пане начальнік. Вы мне толькі напішыце дазвол на мяшок восыпкі.

— Гаспадарку маеце? Жывёлу кантрактавалі? — засыпаў яго пытаннямі начальнік.

(Працяг на стар. 2)



*Спявае „Гарадок“.* *Фота З. Лянкевіча.*

НА НІВЕ БГКТ.

## „Ой, салавейку, пташко маленька...“

Апошнім часам Галоўнае праўленне БГКТ занялося арганізаваннем супольных канцэртаў беларускіх самадзейных харавых калектываў; між іншым, правяло такія мерапрыемствы ў пачатку кастрычніка ў Чаромсе, а ў нядзелю, 10 кастрычніка, у Доме культуры „Гурнік“ у Гайнаўцы. Якраз правядзенню гэтага апошняга давялося мне спадарожнічаць. І не выпадкова. На працягу шэрагу год я выказваўся ў „Ніве“ іменна за такімі канцэртамі, бо ў іх існуе адзіная магчымасць выступіць перад шырэйшай публікай лаўрэатам нашага штогадовага конкурсу „Беларуская песня“, папулярызаваць беларускую песню побач з песняй польскай, рускай, украінскай, а таксама паказаць шырокаму колу грамадства дасягненні нашай бэгэкатоўскай самадзейнасці і такім чынам заахвоціць і прыхіліць да ўдзелу ў ёй яшчэ большую колькасць моладзі і дарослых.

І на падставе таго, што я ўбачыў уласнымі вачыма, скажу адразу: правядзенне такіх канцэртаў — вельмі працаёмкая для работнікаў ГП БГКТ і надта цяжкая для самадзейнікаў-харыстаў справа. Вядома: працаўнікі ГП БГКТ павінны знайсці і наняць адпаведную залу, дамовіцца з калектывамі, распаўсюдзіць платныя білеты па прадпрыемствах і арганізацыях, прывезці харыстаў, забяспечыць спраўны ход канцэрта, адвезці калектывы дамоў. А за кожнай з гэтых спраў тояцца дзесяткі розных перашкод і ўсе іх трэба перамагчы, каб канцэрт усё ж мог адбыцца. А што ўжо казаць пра самаахвярнасць саміх харыстаў і акампаніятараў! Прыгадаю хоць бы выступленне ў Гайнаўцы. Нядзеля. Усе людзі адпачываюць пасля працавітага тыдня. Нашыя ж самадзейнікі бягом на Варшаўскую 11, бо адтуль роўна ў 10 гадзін ад'язджае наш бэгэкатоўскі аўтобус. У

(Працяг на стар. 3)



*Бібліятэка ў Бабіках памяшчаецца ў гэтым зацененым дрэвамі доміку.*

КРАЯЗНАЎЧЫ  СЛОЎНІК

## БАБІКІ

Калі я набліжаўся да гэтай невялічкай мясцовасці, адлеглай якія-небудзь 17-18 кіламетраў на паўднёвы ўсход ад Саколкі, на павароце асфальтаванай шашы я раптам заўважыў фурманку, а каля яе селяніна, што валтузіўся з канём, намагаючыся ўпрэгчы яго ў воз.

— Што вам сталася? — пытаю.

А ён мне:

— Гора адно, бы ў тых Бабіках, — кажа, — жывіна, бачыце, маладая яшчэ, пэкаэсу перапужалася ды вось фурманку ўсю прэч паламала, ды па шашы разнесла. Добра, што хоць мяне не забіла ды сама не пакалечылася.

— А што ж там такое ў Бабіках? Ці не пагарэлі часам? — перапытваю з непакоем.

— Горш! Ім, бачыце, гміну забралі ды ўсіх іх да Шудзялава далучылі. Калісьці, вядома, яны насы задзіралі, што го-го-го! А цяпер зусім у калошу селі.

І праўда. Ужо ў Бабіках — невялічкай вёсачцы, што раскінулася трыма вулачкамі на схіле пагорка — з кім мне толькі не даводзілася завесці гутарку, у мове кожнага чуўся нейкі жаль ды расчараванне.

— Як была ў нас гміна, дык сяло мела нейкі грамадзянскі ранг у ваколіцы, — кажа Данута Кудашэвіч, жонка бабіцкага солтыса. — Як ні як, але нешта тут жывое варушылася, штосьці дзеялася. У адным гмінным упраўленні працавала 16 чалавек, якія мелі сама меней сярэднюю адукацыю. Цяпер большасць з іх выехала адгэтуль, рэшта ж

(Працяг на стар. 4)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“

## ШТО НОВАГА?

# Чаго трэба пазбягаць у дзень нараджэння

Нядаўна быў дзень майго нараджэння, і з гэтага выпадку жонка прапанавала схадзіць у кіно або ў тэатр. Мы купілі штотыднёвік „Уотс он ін Лондан“ („Што ідзе ў Лондане“) і вырашылі выбраць забаву па густу.

Хацелася паглядзець што-небудзь добрае, якую-небудзь вартую рэч. На жаль, аказалася, што большасць п'ес, якія прапаноўваліся праграмай, мы ўжо бачылі, прынамсі, тыя з іх, якія заслугоўвалі ўвагі. Тады мы звярнуліся да кіно...

Выбар быў вялікі. Але, на жаль, амаль усе фільмы мы адхілілі, прачытаўшы іх назву і кароткую аднатацыю штотыднёвіка да іх. Вось некалькі з пералічаных фільмаў. „Абат“: дэманічны фільм, захоплівае вас і трымае ў напружанні, сексуальная сімволіка. „Арабскія ночы“: шмат непрыстойнасцей, самая брудная мова. „Вогненныя сёдлы“: вестэрн, сатыра, шмат сексуальных сцэн у вульгарным гусце. „Душыцель з Бастона“: захапляючы фільм, пабудаваны на апавяданні аб тым, як маньяк задушыў васьмярых жанчын. „Надламаны матылёк“: сексуальны фільм, і гэтак далей і ў тым жа духу.

Быў час, калі я думаў, што пераболышваю, што адстаў ад жыцця. Але неяк у мінулым месяцы я прачытаў у газеце „Таймс“ артыкул кінакрытыка Філіпа Фрэнча, які ахарактарызаваў фільмы, якія з'яўляюцца на свет у Англіі як „безгустоўныя, праставатыя і сумныя“. Ён адзначыў, што ўсе яны амаль адарваны ад сапраўднасці, што няма ў іх новых тыпаў і характараў. Філіп Фрэнч — чалавек малады і цалкам сучасны. Але нават яму агідна большасць фільмаў, створаных цяпер у Англіі.

Нашы „інтэлектуалы“ сцвярджаюць, што насілле і парнаграфія аказваюць, маўляў, „вызваленчае“ дзеянне. Яны нібыта задавальняюць уласцівую чалавечую прагу насілля і тым самым вызваляюць яго ад неабходнасці рабіць насілле на самай справе. На іх думку, на экране — секс і насілле — з'ява станоўчая. Яны глыбока памыляюцца. Многія псіхолагі, якія стаяць на пазіцыях фрэйдзізму, вылучаюць амаль супрацьлеглую тэорыю. Яны адводзяць фільмам, поўным насілля, іншую ролю.

Адначасова з праглядам праграмы забаў „Уотс он ін Лондан“ я прачытаў у газеце „Сандзі таймс“ артыкул аб тым, як у ЗША спецыяльна рыхтуюць крыміналістаў для работы ў амерыканскіх пасольствах за мяжой. Гэтых людзей навучаюць „тэхніцы“ палітычных забойстваў. У газеце расказвалася і аб тым, як амерыканскіх салдат вучаць забіваць. У сістэму іх падрыхтоўкі ўваходзіць прагляд „фільмаў“, спецыяльна прызначаных для паказу забойстваў, насілля і знявечанняў. Прагледзеўшы такія карціны, салдаты, так сказаць, акліматызуюцца, каб не адчуваць ніякіх „нязручнасцей“ пры падобных абставінах у жыцці. Фільмы даводзяць іх да стану, калі яны могуць самі хладнакроўна ўчыніць забойства.

Паведамляючы аб гэтым, „Сандзі таймс“ спасылаецца на даклад аб „новых псіхалагічных метадах апрацоўкі“, падрыхтаваны для канферэнцыі НАТА ў Осла Томасам Наруа, псіхолагам амерыканскага ваенна-марскога шпіталя ў Неапалі.

Мы ўсё-такі не пайшлі глядзець фільм, поўны сексу і насілля. Мы адзначылі мой дзень нараджэння, пагледзеўшы даваенны фільм, пабудаваны на ўнутраным напружанні, на ўзаемаадносінах людзей, сацыяльных супярэчнасцях. Гэта была стужка Марселя Карнэ „Дзеці райка“. Гама чалавечых адносін, паказаных у ёй, свабодна ад дэманстрацыі насілля, жахаў і парнаграфіі.

Фільм не расчараваў мяне. Я добра правёў свой дзень нараджэння.

**Джэймс Олдрыдж,**
англійскі пісьменнік.



*Выступае хор народнай песні.*

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА**

## У мінскіх аўтамабілебудаўнікоў

Мінскі аўтазавод славіцца не толькі сваёй сучаснай, аснашчанай самай сучаснай тэхнікай вытворчасцю, сваімі магутнымі і надзейнымі ў эксплуатацыі машынамі, але і багатым, цікавым і змястоўным жыццём. Будуючы цудоўныя аўтамабілі, шматтысячны калектыў аўтазаводцаў па-новаму будуе і сваё духоўнае жыццё. Вакол завода за прайшоўшыя тры дзесяцігоддзі вырас рабочы гарадок са шматпавярховымі прыгожымі жылымі дамамі, школамі, дзіцячымі дашкольнымі ўстановамі, а ў цэнтры гэтага гарадка ўзвышаецца Палац культуры, называемы многімі Палацам радасці і натхнення.

У велізарным будынку сучасных архітэктурных форм, які зусім нядаўна вырас на зялёным Партызанскім праспекце горада-героя Мінска, размясцілася прасторная тэатральная зала і кінозала, разлічаныя амаль на 1500 месц. А ўсяго ў палацы каля 50 залаў, пакояў, кабінетаў, якія выкарыстоўваюцца для заняткаў калектываў мастацкай самадзейнасці і іншых служб гэтай крыніцы культуры. Тут жа побач раскінуўся вялікі спартыўны комплекс, а ў недалёкай будучыні паблізу палаца будзе пабудаваны яшчэ адзін будынак — вялікая танцавальная зала, разлічаная на 2 тысячы чалавек.

Каб уявіць сабе, наколькі шырокі дыяпазон культурнага жыцця мінскіх аўтазаводцаў, прывяду толькі некалькі фактаў. Пры Палацы культуры аўтамабілебудаўнікоў працуюць шырока вядомыя народны мужчынскі хор і хор народнай песні, народны ансамбль танца „Крыніца“ і народны тэатр, народны вакальна-інструментальны ансамбль „Журавінка“, аркестр народных інструментаў і аматарская кінастудыя „Музфільм“, якія аб'ядноўваюць тысячы рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў і служачых, закаханых у мастацтва.

Праўда, пры Палацы культуры ёсць калектывы мастацкай самадзейнасці, якія яшчэ па ўзроўню свайго выканаўчага майстэрства не ўдастоіліся высокага звання народных, але і яны карыстаюцца вялікай папулярнасцю сярод мінчан і працоўных рэспублікі. Духавы, эстрадныя аркестры, вакальна-інструментальныя ансамблі, напрыклад, пастаянна ўдзельнічаюць на ўсіх святочных урачыстасцях аўтазаводцаў. Харавыя музычныя калектывы цэхаў і аддзелаў, школа бальных танцаў у палацы таксама прыцягваюць пасля працоўнага дня аматараў музыкі, песні, танца.

Вялікія клопаты праяўляюцца тут і аб дзецях аўтазаводцаў. У палацы арганізаваны і часта выступаюць з канцэртамі перад бацькамі малодшы дзіцячы хор і народны дзіцячы хор, юныя музыканты духавога аркестра і ансамбля баяністаў, калектыў дзіцячага лялечнага тэатра. Радуюць аўтамабілебудаўнікоў і дзеці, якія займаюцца ў студыі выяўленчага мастацтва ці ў гуртках народнай творчасці.

І ўсёй гэтай багатай і займальнай культурна-масавай работай кіруе на грамадскіх пачатках праўленне Палаца культуры, якое складаецца з прадстаўнікоў адміністрацыі і лепшых прадстаўнікоў вытворчасці — рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў і служачых.

Дырэкцыя і заўком прафсаюза аказваюць палацу пастаянную матэрыяльную дапамогу. У гэтым годзе, напрыклад, яны выдзелілі больш 200 тысяч рублёў, якія будуць выдаткаваны ў інтарэсах усіх аўтазаводцаў, у інтарэсах паляпшэння работы іх роднага палаца.

Дарэчы, такіх палацаў у Мінску ёсць некалькі. Многія, напрыклад, з захапленнем гавораць аб палацах культуры мінскіх трактарабудаўнікоў і мінскіх камвольшчыкаў, дзе таксама бурліць багатая і цікавая культурна-масавая праца. Аднак крыніца культуры аўтамабілебудаўнікоў, збудаваная зусім нядаўна, прасякнута самым лепшым, самым новым і ў час будаўніцтва палаца і ў перыяд першых крокаў яго творчага жыцця. А гэта жыццё пастаянна ўзбагачаецца, набывае новыя, яшчэ больш шырокія гарызонты.

Калі вам давядзецца пабываць у горадзе-герою Мінску, то пастарайцеся спаткацца з аўтазаводцамі, пагаварыце з імі, пабывайце ў іх цудоўным Палацы культуры, і вы самі пераканаецеся ў гэтым.

**А. Літвін**
Фота У. Казлова

(Працяг са стар. 1)

## На прыёме ў начальніка гміны

— Якая там у мяне гаспадарка, пане начальнік. Я ўжо стары. Паўгектара зямлі сабе аставіў і хачу парсючка падкарміць.

— Прамысловыя кармавыя сумесі, — паясняе начальнік, — у першую чаргу прадаем толькі тым сялянам, якія разводзяць і кантрактуюць жывёлу, якія спецыялізуюцца ў жывёлагадоўлі...

— Але ж я ўжо стары... І жонка старая... Хаця адзін мяшочак...

Начальнік здаецца і выпісвае дазвол на продаж 50 кг „Правіту“.

Наступны інтарасант таксама за гэтым „Правітам“. Тут, аднак, справа простая. Тадэуш Шыманскі з вёскі Боркі на сваіх 12-ці гектарах гаспадарыць даволі добра. Мае 4 дойныя каровы, корміць бычкоў і ялоўкі, кантрактуе свіней.

Начальнік без хістанняў падпісвае яму дазвол на пакупку гэтых кармавых сумясей. Прапануе нават яшчэ больш, чым прасіў сам гаспадар.

— Пане Шыманскі, — звяртаецца да яго начальнік, — у лістападзе гэтага года наладзім мы экскурсію ў перадавыя спецыялістычныя жывёлагадоўчыя гаспадаркі. Можа б і вы паехалі, што?

— А чаму ж не?

— Бо я, — гаворыць начальнік, — хацеў бы вас заахвоціць, каб вы сваю гаспадарку поўнасцю пераставілі на жывёлагадоўлю. Забяспечым вас крэдытамі і ПЗУ таксама паможа вам фінансава...

— Падумаем... пабачым... — не зусім рашуча адказвае селянін. А тут ужо нецярпліва зазіраюць у кабінет іншыя інтарасанты. Начальніку на разгляд прыносяць яны справы самыя розныя, найчасцей аднак паўтараюцца просьбы зняць штраф за неаднаўленне пасяўнога жыта і выдаць дазвол на пакупку прамысловай восыпкі. У справе восыпкі начальнік найчасцей адступае і выпісвае дазволы. А вось у справе гэтых штрафаў стаіць ён цвёрда і кожнаму рашуча паўтарае:

— Або купіце збожжа, або заплаціце штраф.

Хацеў бы я болей падрабязна разабрацца ў гэтай справе. Аднак у кабінет начальніка ціснуцца ўжо наступныя інтарасанты і ён не знаходзіць часу, каб пагутарыць са мною.

— Можа іншым разам, — прапануе. — Толькі не ў дзень прыёму.

— Дык добра, — гавару яму, — да пабачэння іншым разам.

**Віктар Рудчык**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 30.X.** 6.00 RTV Szk. Śred. Biolog. 6.35 Wskaz. met. 10.00 Dla szkół. (kl. I—III) Czerw., żółte, ziel. 10.10 A jeśli to miłość — film fab. radz. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Upr. rośl. 15.10 Red. Szk. zap. 15.30 Pr. dnia. 15.35 Dla dzieci: 16.10 Dziennik. 16.20 Obiektyw. 16.40 Niezapomniane mel. 17.05 Sobota Mł. 18.05 Prawdy i legendy przyrody — film dok. fr. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Teatr Komedii: P. Barillet i J.P. Gredy — 40 karatów. 22.05 Dziennik. 22.20 Werble nad Mohawkiem — film fab. USA.

**Niedziela 31.X.** 6.20 Tech. Rol. Fiz. 6.50 Upr. rośl. 7.25 Kurs Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Sport. 8.40 Sport dla wszyst. 8.55 Pr. dnia. 9.00 TELERANEK. 10.20 Antena. 10.45 Radar. 11.00 Klub Sześciu Kont. 11.45 Film. anim. 12.00 Dziennik. 12.25 Nie taki diabeł straszny — pr. muz. 13.30 Dla dzieci. 14.20 Wielka gra. 15.20 Los. Duż. Lot. 15.35 Między nami jaskiniowcami — film ser. USA. 16.00 Wielkie bitwy historii — film dok. fr. 16.55 Piosenki Igora Słastienki. 17.25 P. nożna: Polska — Cypr. 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.40 Bajka dla dor. 20.50 Znowu razem — film ser. ang. (Wojna i pokój). 21.40 L. Kydryński przedst. YVES MONTAND. 22.30 Sport.

**Poniedziałek 1.XI.** 10.10 Pr. dnia. 10.15 Siedemnaście mgnień wiosny — film ser. 11.25 W starym kinie. 12.25 Pasja leśnika. 12.40 Piórkiem i węglem. 13.05 P. Czajkowski — Koncert skrzypc. D-dur op. 35. 13.45 Z kamerą wśród zwierz. 14.20 Dolina Jaskiń — film dok. austral. 15.15 Dla dzieci. 16.15 Estrada Poetycka. 16.55 Pr. publ. kult. 17.40 Dziennikarz — film fab. radz. cz. I. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Teatr TV: E. Bryll — Rzecz Listopadowa.

**Wtorek 2.XI.** 9.00 Dla najmł. (kl. I) Mat. 10.00 Wojna i pokój — film ser. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Hod. zwierz. 16.25 Dziennik. 16.30 Obiektyw. 17.00 Przyp., radz. 17.05 Stud. Mł. 18.15 Pr. publ. kult. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Dziennikarz — film fab. radz. cz. II. 22.05 Łódzkie spot. balet. 22.55 Dziennik.

**Środa 3.XI.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.35 Hod. zwierz. 8.40 Dziennikarz — film fab. radz. cz. I. 10.00 Dla szkół. (kl. VII) Fiz. Zasady dynamiki. 11.05 Hist. J. Bem. 12.00 (kl. VII—VIII) Wych. plast. Rzeźba. 12.45 RTV Szk. Śred. Chem. 13.25 Tech. Rol. Hod. zwierz. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Los. Mał. Lot. 18.10 Co kto lubi. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Samotnik — film fab. fr. 22.20 Dziennik. 22.55 Sport.

**Czwartek 4.XI.** 6.00 RTV Szk. Śred. Chem. 6.30 Tech. Rol. Hod. zwierz. 9.00 Dla szkół (kl. I lic.) J. pol. J. Kochanowski, sekretarz Zygmunta Augusta. 9.30 Dziennikarz — film fab. radz. cz. II. 13.45 Tech. rol. Mat. 14.30 Mech. rol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Przyp., radz. 17.05 Ekran z bratkiem. 18.10 Poligon 18.35 Komicy niemego ekr. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Przestępca — film fab. ang. 22.20 Pegaz. 23.05 Dziennik.

**Piątek 5.XI.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Mech. rol. 10.00 Dla szkół. (kl. IV) Tu był Lenin. 11.05 (kl. I—III lic.) Wych. tech. Warunki pracy i życia. 12.00 (kl. VII) Geogr. Rumunia. 12.45 RTV Szk. Śred. Mat. 13.25 Tech. Rol. Mech. rol. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Latający Holender. 18.00 Inf. Wyd. 18.10 Prawdy i legendy przyrody — film dok. fr. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Jesienne kwiaty — film fab. radz. 22.40 Dziennik. 22.55 Gwiazdy Sopotu 76.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 29.X** — 8.15 Film fab. 17.15 Koncert orkiestr dętych. 17.55 Film fab. 19.30 Finał. koncert wszechzwiązk. konkursu mł. wyk. piosenki radzieckiej. 20.50 Międzynar. tur. koszykówki.

**Sobota 30.X** — 8.30 Film fab. 10.30 Film fab. 12.00 Hokej. Dynamo (M) — Spartak. 17.00 P. nożna. Dniepr — Torpedo (M) 2 poł. 17.50 Piosenka — 76. 18.20 Filmy z Chaplinem. 19.30 Lud. art. ZSRR F. Raniewska. 21.10 Międzynar. tur. koszykówki.

**Niedziela 31.X** — 12.15 Film fab. 13.35 Koncert. 14.55 Filmy anim. 15.25 Wiersze S. Jesienina. 16.15 Klub film. 17.25 Film fab. 20.40 Rugby. ZSRR—Szwecja.

## КІНО

**Białowieża** Delegat floty — radz. 3. Chłopiec z gitarą — radz. 4—5. Dla zabicia czasu — radz. 6—7.

**Bielsk Podl.** Tego nie przerabialiśmy — radz. 3—4. Ostatnie spotkanie — radz. 5—6. Rozerwany pierścień — radz. 7.

**Czeremcha** Ogniste wiorsty — radz. 2—3. Porucznik Marynin — radz. 6—7.

**Czyże** Rzeka płynie dla zakochanych — radz. Chewsburska ballada — radz. 3—7.

**Dubicze Cerkiewne** Dzieci Don Kichota — radz. Staroświecki dramat — radz. 3—7.

**Gródek** Delegat floty — radz. 6—7.

**Hajnówka** Przygody Gerarda — ang. 1—2. Ta jedyna — radz. 3—4. Bądź z nim szczęśliwa — radz. 5—6. Spóźniona miłość — radz. 7.

**Kleszczele** Szach królowej brylantów — radz. 2—3. Polonez Ogińskiego — radz. 4—5. Oskarżeni o zabójstwo — pol. 6—7.

**Michałowo** Ostatni lot — radz. 3. Plac Czerwony — radz. 4—5. Ogień na oceanie — radz. 6—7.

**Mielnik** Martwy sezon — radz. 3. Tajemniczy mnich — radz. 6—7.

**Milejczyce** Chewsburska ballada — radz. 2—4. Monolog — radz. 4—5. Nie smuć się — radz. 6—7.

**Narew** Los człowieka — radz. Arcymistrz — radz. 3—7.

**Narewka** Człowiek bez paszportu — radz. Wiryneja — radz. 3—7.

**Nurzec** Przygody Buratino — radz. 2—3. Tajemniczy mnich — radz. 4—5. Żenia, Żeniaczka i katiusza — radz. 6—7.

**Orla** Mroźny poranek — radz. Ostatni lot — radz. 3—7.

**Rajsk** Po latach — radz. Nikt nie chciał umierać — radz. 3—7.

B.Z.Graf. Zam. 2529 F-4

**УЗНАГАРОДА МІНІСТРА АСВЕТЫ ЯНКУ ЗЕНЮКУ**

**З нагоды Дня настаўніка за выдатныя дасягненні ў дыдактычнай і выхаваўчай працы міністр асветы і выхавання прызнаў Янку Зенюку, сакратару ГП БГКТ, дырэктару Ваяводскай педагагічнай бібліятэкі ў Беластоку Узнагароду першай ступені.**
**Сардэчна віншуем!**

## АД РОДНЫХ НІЎ

### Дажынкі ў Пяньках

*За добрую працу,*
*За добры ўчынкі*
*Пянькі адгулялі*
*Гмінныя дажынкі.*

*Людзі з гэтай вёскі,*
*Найлепшыя з гміны,*
*На дажынках мелі*
*Вясёлыя міны.*

*З радасцю стаялі,*
*Дажынкі віталі,*
*На начальства з гміны*
*Міла паглядалі.*

*Вырасцілі плёны,*
*Багацця крыніцу,*
*Ім й узнагароду*
*Далі — шаткаўніцу.*

*На канец дажынак*
*Музыка іграла,*
*Уся наша моладзь*
*Добра пагуляла.*

*Так прайшла нядзеля,*
*І прайшлі дажынкі.*
*Разышліся людзі,*
*Асталісь ўспамінкі.*

**Люба Саковіч,**
Юшкаў Груд

(Працяг са стар. 1)

## „Ой, салавейку, пташко маленька...“

9,45 усе ўжо ў зборы. Без 10 мінут дзесятая мы ўжо імкнемся святочнымі пустымі вуліцамі і шашой у Гарадок. Там хутка збіраецца ўвесь гарадоцкі хор, і мы едзем у Плёскі. Дзяўчаты ў Плёсках ужо падрыхтаваліся да выезду, збіраем іх па гэтай надта разлеглай вёсцы. Аўтобус кіруецца ў Дубяжын, там бярэм наш мужчынскі хор, а ў Бельску к нам сядаюць акампаніятары С. Копа і С. Нявінскі. На гадзінніку ўжо 14-я. Накіроўваемся ў Гайнаўку. Шафёр цісне газ, бо перад выступленнем харыстам трэба не толькі апрануць народныя касцюмы, ухарактарызавацца, але і правесці хоць невялічкую рэпетыцыю — расспявацца. Пад'язджаем да гайнаўскага „Гурніка“, усе выскакваюць з аўтобуса і бягом за куlісы перапранацца, характарызавацца ды рэпеціраваць. Стрэлкі на гадзінніку цяпер бягуць асабліва хутка. Зала — амаль поўная, гадзіна 16-я, Люся Васілюк ужо на сцэне. Вітае гледачоў, прэзентуе гарадоцкі хор, які адкрывае канцэрт. Потым спявае салістка Валянціна Шуста з Беластока, за ёй Дубяжын — хор і саліст А. Раманюк, дзяўчаты з Плёсак, аб'яднаныя хоры Плёсак і Дубяжына, у перапынках гумарыстычныя ўстаўкі Л. Васілюк і Я. Крупы, зноў Дубяжын, зноў Плёскі і пасля дзвюхгадзіннага канцэрта — на сцэну выходзяць усе харысты на развітальную „Бывайце здаровы...“ Гаснуць пражэктары на сцэне, запальваецца святло ў зале. Але ўжо праз якія пятнаццаць мінут зала зноў поўная, зноў патанае ў мроку, а пражэктары на сцэне зноў знаходзяць Люсю Васілюк, Гарадок... І так пачаўся наступны дзвюхгадзінны канцэрт. Калі ўжо перапраналіся і сядалі ў аўтобус, на гадзінніках была 10-я вечара. І цяпер зноў: Бельск - Дубяжын - Бельск - Плёскі - Гарадок і каля 1-й гадзіны ночы, урэшце, Беласток. І ўсё гэта нават без шклянкі чаю. А сёння а 7-ай ці 8-ай пачынаецца ў нашых харыстаў звычайны працоўны дзень на фабрыках ці ва ўстановах! Немагчыма знайсці словы, якія змаглі б выказаць велічыню бязмежнай самаахвярнасці нашых самадзейных спевакоў...

І тут напрошваецца пытанне ці мае сэнс і мэту гэтая самаахвярнасць? Адказ можа быць толькі адзін: так, вялікі сэнс і высакародная мэта.

У гэтым дзвюхгадзінным канцэрце калектывы выконваюць некалькі дзесяткаў беларускіх, польскіх і ўкраінскіх песень, але аснову ўсяго гэтага рэпертуару складаюць беларускія рэгіянальныя народныя песні Беласточчыны. Пры гэтым кожны калектыў спявае песні сваёй мясцовасці: Гарадок з паўночна-ўсходняй часткі Беласточчыны, Плёскі — з пабярэжжа ракі Нарвы, Дубяжын — з паўднёвай часткі Беласточчыны. Такім чынам, у рэпертуары прадстаўлены амаль усе песенныя рэгіёны, якія выступаюць сярод беларускага насельніцтва Беласточчыны. Канцэрт аказваецца своеасаблівым аглядам народнага меласу ўсяго нашага рэгіёну. Пры гэтым беларуская народная песня Беласточчыны выконваецца побач з песнямі іншых славянскіх народаў, яна гучыць калі не лепш, дык зусім не горш ад іншых песень, набывае поўнае артыстычнае грамадзянства на сцэне і асабліва горача ўспрымаецца слухачамі. Са сцэны гучаць не толькі беларускія мелодыі, але і беларускае мастацкае слова, красуюцца на ёй беларускія народныя ўборы. І ўсё гэта якраз і стварае тую непаўторную атмасферу. А гэта пацвярджаюць бурныя апладысменты слухачоў у часе канцэрта і просьбы іх прыязджаць яшчэ і яшчэ з тымі самымі і з новымі песнямі, калі харысты ўжо збіраюцца ад'язджаць. І нашыя самадзейнікі добра разумеюць сваю бясцэнную, вялікую ролю ў папулярызацыі роднай песні і роднага слова. І радуецца іх сэрца!

Але на гэтым нельга паставіць кропку.

Якім бы коштам гэта не дасталася, усё ж трэба акружыць нашых самадзейнікаў большай сардэчнасцю і цяплом, асабліва тых, што прымаюць удзел у канцэртах, арганізаваных ГП БГКТ. Кожны бачыць, што ўсе нашы харавыя калектывы і салісты, хоць і спаборнічаюць паміж сабою ў выканаўчым майстэрстве, але адначасова іх аб'ядноўвае вельмі цесная дружба, яны жывуць як адна згодная сям'я. І гэта неабходна ўмацоўваць і развіваць. І тут вельмі карысным, на мой погляд, было б арганізаваць зімою ў вольную ад працы суботу і нядзелю спецыяльны двухдзённы адпачынак у Белавежы, Супраслі ці Беластоку. Прынялі б у ім удзел усе спевакі з актыўных калектываў. Вечарам далі б канцэрт, а потым іх чакала б прыемная вечарына з танцамі, а на наступны дзень — кулік, экскурсіі, супольны абед і г.д. Бо ведама ж: салаўёў песнямі не кормяць!..

**Мікалай Гайдук**

**ДНІ ПОЛЬСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ Ў БССР**

## „Я — сын зямлі беластоцкай“

Толькі што закончаныя Дні польскай літаратуры ў БССР сваім абсягам ахапілі ўсю рэспубліку. З гэтай нагоды было наладжана многа мерапрыемстваў, адбыліся вечары паэзіі, канферэнцыі чытачоў, сустрэчы польскіх пісьменнікаў з беларускімі працоўнымі на прадпрыемствах, у гаспадарках і навучальных установах. Шырока аб Днях пісаў рэспубліканскі друк. З прыемнасцю аднатоўваем мы і ўвагу, якую ў Днях удзяліў беларускі друк нашым паэтам. Як мы ўжо паведамлялі, у „Літаратуры і Мастацтве“ з'явіліся рэцэнзіі на мінскія кніжкі Алеся Барскага і Віктара Шведа. Мінскае выданне вершаў Барскага прыцягнула ўвагу і „Чырвонай змены“ (13 кастрычніка). Гэта папулярная рэспубліканская газета для моладзі ў рубрыцы „Дні польскай літаратуры ў Беларускай ССР“ змясціла рэцэнзію А. Марціновіча „Я — сын зямлі беластоцкай“. Аўтар яе высока ацэньвае нашага вядучага паэта, асабліва яго лірыку.

„Лірызм А. Барскага, — піша А. Марціновіч, — асабліва ярка праяўляецца ў творах пра каханне. У зборніку сабрана вялікая нізка іх. Каханне для паэта — само жыццё і адкрываецца яно ў прасторы, часе, яно — сама вечнасць, што на нейкі момант спынілася. Толькі на адно імгненне, а колькі тут непаўторнасці, дзівоснасці і чалавечнасці.

А. Барскі — паэт, вобразы ў творчасці якога зрокавыя, яны падаюцца пластычным малюнкам. І табе здаецца, што нібыта ты сам жывеш у гэтым свеце непаўторнасці і хараства...

...Нацыянальнае ў характары лірычнага героя паэта — гэта чыста чалавечыя рысы, тое, што родніць яго з добрымі людзьмі ўсёй зямлі: весялосць, неспакой, аптымізм, шчырасць пачуццяў...“

З крытычных заўваг рэцэнзента: „Безумоўна, А. Барскі, як і кожны паэт, спрабуе пашырыць гарызонты свайго творчага абсягу. Калі гэта ідзе ў чыста тэматычным напрамку, дык тут ён дасягае поспеху. Імкненне быць „сучасным“, як нам здаецца, шкодзіць іншы раз паэту. Вобразы тады атрымліваюцца нейкімі невыразнымі, штучнымі: „Узняты сосны, як бакалы, зямлі шурпатаю далонню...“, „Пшаніца — рухомы падмурак будоўлі, названай летам...“, „Скручанай шабляй нервовай маланкі пярун раскалоў каменю грудзі...“

## ВОЙСКА ПОЛЬСКАЕ ПА—НАРОДНАМУ

У мінулым годзе Музей войска ў Беластоку, Беластоцкае таварыства культуры, тыднёвік „За вольнасць і люд“ і Аб'яднанне народных умельцаў аб'явілі агульнапольскі конкурс „Войска ў народным мастацтве“. Конкурсам зацікавіліся перш за ўсё народныя ткачыхі з ваколіц Янова на Беласточчыне і народныя разьбяры ў асноўным з Апольскага, Вроцлаўскага і Зялёнагурскага ваяводстваў, словам, народныя ўмельцы з усходніх і заходніх ускраін нашай краіны.

Конкурс прынёс важкі і вельмі цікавы плён, агулам паступіла ў адрас яго арганізатараў каля 50 ткацкіх вырабоў (дзвюхасноўвавых дываноў і макатаў) і каля 90 прац па разьбе (у асноўным рэзбленыя ў дрэве групавыя кампазіцыі). Усе працы адзначаюцца высокім мастацкім узроўнем, але на асаблівую ўвагу заслугоўваюць тканіны з іх надзвычай разнастайнымі і вельмі цікавымі ўзорамі, пачэрпнутымі з гісторыі і сучаснасці нашага Людовага Войска. Конніцу і танкавыя часці, паветраны і марскі флоты, салдат у ар'ергардзе і на ўрачыстай лінейцы, на карауле і ў час „перакуру“ — ўсё гэта патрапілі з піетызмам выплесці з каляровых нітак працавітыя і таленавітыя рукі народных ткачых. І што цікава: заўсёды ў цэнтры іх увагі знаходзіцца просты, радавы салдат — сімвал народнага разумення сэнсу нашай арміі. Разцы ж народных разьбяроў засяроджвалі ўвагу на подзвігах салдат у час апошняй вайны і на іх мірнай стваральнай працы для дабра нашай Айчыны. Знаходзім сярод іх сцэны з гістарычнай бітвы пад Леніна, славутыя чырвоныя макі з-пад Монтэ Касіна, кампазіцыю аб польска-савецкім братэрстве па зброі, а таксама бачым сапёраў пры ўзвядзенні маста, пехацінцаў пры жніве і цікавую групу „О, Бартак прыехаў у водпуск!..“, дзе прадстаўлены тыповы сялянскі панадворак з мноствам характэрных для яго постацяў людзей і жывёлы, што ўсе надта цешацца прыезду дамоў Бартка.

Цяжка ў кароценькай нататцы прадставіць усё багацце гэтых арыгінальных і палонячых сваёй прастатой і мастацкасцю прац. Іх трэба ўбачыць уласнымі вачыма на адкрытай 8 кастрычніка г.г. у Музеі войска ў Беластоку, вул. Кілінскага 7, на спецыяльнай выстаўцы, якая будзе адкрыта да 15 снежня бягучага года.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

*Народны разъбяр Ю. Фургала з Вроцлаўскага ваяводства каля сваёй узнагароджанай працы „Барабаншчык“.*



*Народныя ткачыхі М. Дзежка і яе дачка-вучаніца Б. Дзежка з вёскі Горны Сток гм. Ясяноўка каля свайго дзвюхасноўвавага дывана „Войска Польскае“, які заняў першае месца ў конкурсе.*



*Праца „Капрал у водпуску“ — З. Пурхалы з Косава Зялёнагурскага ваяводства.*

## З маёй званіцы

### Вуліца, ці сабакарня?

Ёсць у Бельску вуліцы: Пушкіна і Замкавая. Але сёння не будзем гаварыць пра балота, засмечанасць ды той сагніўшы масток на Замкавай вуліцы, што спалучае два берагі рову, які частуе горад смуродам, падораным льноапрацоўчым заводам. Сёння зоймемся зусім іншым. Днём тут спакойна, а нават па-свойму прыгожа. Але калі сонца скоціцца за небасхіл і ўладу пяройме ў свае рукі ноч, вуліца раптоўна змяняе свой спакойны воблік. Апрача таго, што святло на электрычных слупах гарыць як хоча, то яшчэ і сабак цэлая зграя на вуліцу вывальваецца. І адкуль іх столькі бярэцца? Быццам бы з цэлага горада пазбягаліся на просьбу мясцовых. Чыстая сабакарня. Той рыжы, той чорны, той рабы, той яшчэ іншы. Усялякія, якія толькі могуць быць. І будзь тут разумны ды прайдзі вуліцай. Хопіць толькі, каб адзін забрахаў. А раніцай зноў тое ж самае. Так і сачы за кожнай брамкай, каб не выскачыў. А гаспадары, быццам бы спецыяльна пакідаюць іх прыадкрытымі. Проста не задумоўваюцца над тым, якая небяспека пагражае праходзячым. Тут я не супраць сабак, яны ні ў чым не вінаватыя, але адносна тых, хто іх трымае. Калі вырашылі гадаваць, то і апекавацца імі трэба. Нельга ж так, як цяпер. (мш)

# БАБІКІ

(Працяг са стар. 1)

штодзень даязджае да працы ў Шудзялава. Мела таксама паўстаць гмінная школа са значнай колькасцю настаўнікаў — самага актыўнага грамадскага элементу. Пачалі было ў нас будаваць гмінны цэнтр аховы здароўя. Людзі, не лічачыся ні са сваім часам, ні з працай, у грамадскім чыне выкапалі катлаван пад фундаменты, вывезлі зямлю. Што ж, спадзяваліся прыезду спецыялістаў-лекараў. Вось так і абмінула нас шчасце мець сапраўднае культурнае жыццё. І яшчэ каб хоць былі далучылі нас да Саколкі, да якой нам і зручней і ўжо па звычцы, а то — да Шудзялава, за свет божы...

Але ўсё ж у Бабіках, з іх 38 гаспадаркамі і каля 190 жыхарамі, жыццё не затрымалася. **Алізаровічы, Гелды, Кудашэвічы, Суроўцы** і іншыя не з меншай старанлівасцю, чым раней, тупаюць каля сваіх гаспадарак ці ў самым сяле, ці ў яго прысёлках: Зубоўшчыне і Навасёлках. Зямля ў **Альхоніску, Багне, Грудах, Камяніцы, Лозках, Лысай Гары, Самагрудзе** і іншых тутэйшых палетках апроблена і дагледжана належна і родзіць з кожным годам усё лепш; нядрэнныя ўкосы ў **Крутой Горцы, Парэмбшчыне, Пісароўцах** і іншых лугах. Праўда, лес не адыгрывае ў гаспадарцы Бабікаў вялікай ролі, але і ён ёсць у **Селявонісе** і **Сяткоўшчыне.**

Тутэйшыя старажылы не выводзяць паходжання свае мясцовасці з якой-небудзь незвычайнай легенды і не шукаюць яе пачаткаў у дапатопных часах. Проста кажуць, што тут было чыстае поле, якое належала да панскага маёнтку ў Зубаўшчыне. Калі была парцэляцыя яго зямель (відаць, у выніку скасавання паншчыны ў 1861 годзе), у гэтым месцы атрымалі надзелы сяляне Кудашэвіч і Мянько. Надзелы былі не аднолькавыя: Кудашэвічу дастаўся кавалак большы і лепшы, а Мяньку — малы ды горшы. Таму нашчадкі Кудашэвіча ў асноўным жылі са сваіх гаспадарак, а вось патомкам Мянька, каб неяк пракарміцца ды прыадзецца, даводзілася хадзіць на падзёншчыну ў маёнткі ў Зубаўшчыне і Пісароўцах.

У міжваенным часе ў гэтых ваколіцах актыўна дзейнічалі арганізацыі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі, Беларускай сялянска-работніцкай грамады, Таварыства беларускай школы. Даволі прыгадаць, што з суседняй з Бабікамі вёскі Гаркавічы паходзілі выдатныя дзеячы рэвалюцыйнага руху — С. В. Прытыцкі і П. П. Валошын, а ў памяці людзей старэйшага пакалення захаваліся жывыя ўспаміны пра іхнія палымяныя прамовы і адважную падпольную дзейнасць.

Нямецкія акупанты жорстка расправіліся з найбольш актыўнымі людзьмі з Бабікаў: Мікалаем Гелдай, Іосіфам Мянько і Францішкам Федзюкевічам — яны былі расстраляны.

Нялёгкія былі і першыя гады пасля вайны: сюды не аднойчы наведваліся банды рэакцыйнага падполля.

Тутэйшыя людзі прынялі актыўны ўдзел ва ўмацаванні народнай улады не толькі на Беласточчыне, але і ў іншых рэгіёнах нашай краіны, працавалі ў партыйных органах, служылі ў Войску Польскім, Грамадзянскай міліцыі.



*У гэтым скромным, але ўтульным будыначку ўсе ўраджэнцы Бабікаў вучыліся і вучацца выводзіць літары і складаць з іх першыя словы.*

Большасць маладых людзей, закончыўшы мясцовую пачатковую школу, падавалася вучыцца далей і сёння многія з іх займаюць адказныя пасады ў розных дзялянках нашага жыцця, як, напрыклад, Ева Майтыка, якая закончыла Вышэйшую эканамічную школу і працуе ў Вроцлаве. Многа моладзі вучыцца і цяпер у сярэдніх ці вышэйшых школах, як Юрка Алізаровіч — у Беластоцкім палітэхнічным інстытуце.

Тыя, хто астаўся на гаспадарцы, імкнуцца, каб з тутэйшага палетка наша грамадства мела кавалак хлеба і да хлеба. Вось хоць бы з гаспадаркі сярэдняй рукі Уладзіслава Кудашэвіча штогод паступае дзяржаве сем тысяч літраў малака, дваццаць кормнікаў, дзве-тры штукі ўбойнага быдла, звыш дзвюх тон збожжа, а таксама шэраг іншых сельскагаспадарчых прадуктаў.

Значыць, не такое ўжо і гора ды бяда ў бязгмінных Бабіках!..

**Мікалай Гайдук**
**Фота аўтара**

# КАМУ САРОМІЦЦА?

Малодшыя гэтага не памятаюць, старэйшыя стараюцца забыць, а не могуць. Забурчыць толькі машына або забрэша сабака, а перад вачыма зноў адзінаццаць звязаных, акрываўленых мужчын — жыхароў Полька і зграя нямецкіх салдат з аўтаматамі, якімі нанеслі смяротны прысуд гэтым нявінным людзям. Зноў устае дзень восьмага сакавіка, таго памятнага тут года, калі вёска перастала вогуле існаваць. Калі нехта дакладней хацеў бы пазнаць гэтую трагічную гісторыю, хай адклікнецца да артыкула „Як гэта было“, змешчанага ў 11-ым нумары „Нівы“ за 15 сакавіка 1964 г. А мы заглянем у сённяшняе Полька, якое цяпер знаходзіцца ў гміне Міхалова. У памяць расстраляных адзінаццаці жыхароў і трох партызан па ініцыятыве Мікалая Міруця, які быў старшынёй прэзідыума ГРН у Юшкавым Грудзе, у вёсачцы Полька, куды вярнуліся і дзе адбудаваліся тры сям'і, паставілі памятны камень. Потым яго перанеслі ў лясок на месца адбыўшайся экзекуцыі, а тут вырас скромны, але прыгожы помнік з дзвюма чорнымі шклянымі плітамі, на якіх напісалі прозвішчы загінуўшых. Помнікам заапекаваліся вучні, аб чым сведчаць чысціня і свежыя кветкі. Але праз два гады палопалася, а потым і зусім адпала адна пліта. Вучні прабавалі прыклейваць адпаўшыя кавалкі цэментам ды ўсё дарэмна. У сувязі з гэтым звярнуліся да гмінных улад у Міхалове, якія неўзабаве прыслалі новую. На жаль, была яна не шкляная, а бетонная і не падыходзіла не толькі па форме, але і па выгляду. І застаўся стаяць помнік, напалову асірацеўшы. Вучні надалей прыносяць сюды кветкі, надалей дбаюць пра чысціню, але адначасова бачаць неадпаведны прыклад. Так часта чуюць расказы пра трагедыю вёскі, а тут раптам незадбаны помнік. І не толькі яны гэта бачаць. Стаіць ён каля дарогі, і кожны, хто толькі едзе, напэўна гляне ў гэты бок. А тут жа за наша светлае „сёння“ людзі аддалі сваё жыццё.

**М. Шаховіч**




*Пісьманосец з шудзялаўскай пошты не можа належна выконваць сваіх службовых абавязкаў, не прыносіць падпісчыкам часопісаў. Найбольш робіць ён крыўды падпісчыкам „Нівы“ ў Паўночным Востраве, якія ўжо даволі доўгі час не атрымоўваюць рэгулярна часопісу.* (мс)

## КЛОПАТЫ З УРАДЖАЕМ

Вецер трасе яблыкі, а тут трэба было спяшацца з бульбакапаннем. Сёлета многія гаспадары яблыкамі кармілі кароў, аддавалі сваякам з горада. Бо што з імі рабіць, калі на вёсцы няма каму прадаваць, амаль у кожнага селяніна ёсць свае яблыкі.

Здымак зроблены ў садзе Анатоля Хмялеўскага з Паўднёвага Вострава, што ў Крынкаўскай гміне.

Тэкст і фота **М. Х.**



# Ці вы ўжо выпісалі „Ніву" на 1977 год?

Дарагія чытачы, калі Вы яшчэ не выпісалі свой часопіс на 1977 год, зрабіце гэта неадкладна. Прыпамінаем, „Ніву“ можна выпісаць у пісьманосца, на пошце і ў „Руху“. Калі маеце нейкія цяжкасці з выпіскай на месцы (здараюцца такія выпадкі па-за Беласточчынай), дасылайце грошы чэкам на рахунак RSW „Prasa—Książka—Ruch” I Oddział Rejonowy w Białymstoku, ul. Kopernika 93, nr konta 5018—1094 NBP I Oddział Białystok.

Цана падпіскі: на квартал 7,20 зл; на паўгода — 14,40 зл; на год — 28,80 зл.

Можна таксама „Ніву“ выпісаць знаёмым за мяжу. Такую падпіску прымае RSW „Prasa—Książka—Ruch” Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00—958 Warszawa konto PKO nr 1531—71.

Цана падпіскі за граніцу вышэйшая за краёвую на 50%.

Дзякуем!




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### АЛЬБЕРТ ПАЎЛОВІЧ — ЧАСТКА XVIII

**Сацыяльныя вершы.** Канчаючы інфармацыю аб гумарыстычных вершах, звязаных з сацыяльнымі адносінамі, разглянем яшчэ два творы, у якіх пісьменнік ілюструе адносіны ў памешчыцкім і чыноўніцкім асяроддзі. Гэтая праблематыка выступае ў вершах: „Далікатнасць за далікатнасць“ і „Сак піў“.

У вершы „Далікатнасць за далікатнасць“ выступаюць элементы адносін не толькі паміж панамі, але таксама элементы грамадскай сітуацыі беларускага селяніна, які выконвае на пошце функцыю пасланца. Яго трыццаціпяцікіламетровы марш ноччу пад дажджом і перунамі з дурацкай панскай тэлеграмай з'яўляецца абвінавачваннем пануючых адносін. Аднак не яго жыццё і не яго заняткі з'яўляюцца істотай вершаванага апавядання. Датычыць яно двух паноў Лізунскага і Цыбульскага, якія, праяўляючы ў адносінах да сябе знешнюю ветлівасць, гаворачы далікатна, зрабілі сабе ўзаемна свінства.

Пан Лізунскі, успомніўшы ноччу аб імянінах пана Цыбульскага, высылае яму тэлеграму. Тэлеграму нясе пасланец Пракоп. Абуджаны Цыбульскі прымае тэлеграму з абурэннем. Па-першае, трэба было ўстаць сярод ночы, па-другое, трэба было заплаціць некалькі злотых за яе прынясенне. Цыбульскі прыдумаў вельмі цікавую форму „помсты“. Высылае Лізунскаму дзесяціпудовы камень. За перасылку мусіць заплаціць Лізунскі. Пры гэтым высылае Цыбульскі ліст, у якім піша, што тэлеграма Лізунскага была для яго вялікай радасцю. Пасля атрымання тэлеграмы яму зваліўся з сэрца камень такой велічыні, якую мае камень высланы па пошце.

Зразумела, што ў творы маем дачыненне з гіпербалікай. Цяжка сабе ўявіць, каб хто-колечы высылаў дзесяціпудовы камень. Істота верша заключаецца ў чымсьці іншым, а менавіта ў тым, што часта за знешняй ветлівасцю і сардэчнасцю скрываецца ўнутраная пустэча і абыякавасць.

З крыху іншай катэгорыяй гумарыстычнай сітуацыі сутыкаемся ў вершы „Сак піў“. Героямі твора з'яўляюцца чыноўнікі і лекар. У вершы выступае каларыстычная карціна п'янкі валаснога старшыні і пісара ў карчме. П'яныя напавал чыноўнікі на вачах сялянскай грамады хочуць закпіць з прыехаўшага ў воласць лекара.

Цвярозы лекар аднак выходзіць пераможцам з „канфлікту“ — выігрывае заклад і забірае грошы. Камізм твора праяўляецца ў тым, што намераная, запланаваная хітрасць правальваецца, што той, хто хацеў быць пераможцам, становіцца ахвярай.

Трэба падкрэсліць, што верш „Далікатнасць за далікатнасць“, а тым больш „Сак піў“ далёкія ад дасканаласці, калі ідзе гутарка аб іх стылістыцы і вершаскладанні. Пазбаўлены яны гармоніі, цікавых слоўных знаходак, метафар. І таму цяжка залічыць гэтыя вершы да творчых дасягненняў Паўловіча. Нягледзячы на гэтыя хібы, абодва творы даюць пэўнае паняцце аб звычаёвасці і маральных нормах паноў і чыноўнікаў.

Зразумела, у сацыяльным гумары Паўловіча не знойдзем шырокай карціны грамадскага побыту старой Беларусі, аднак некаторыя праявы жыцця і грамадскіх адносін выступаюць тут досыць выразна.

# ТРЫБУНА чытачоў

## Каля бульбы

У пачатку кастрычніка школьная моладзь групы сельскагаспадарчых школ у Бельску ў ліку 180 чалавек прымала ўдзел у капанні бульбы ў сельскагаспадарчых аддзяленнях Ціхы і Швалк — ПГР Свентайна каля Алецка. За сем дзён моладзь выкапала бульбу на плошчы амаль 50 га і сабрала яе звыш 600 тон. Праца была арганізавана ў рамках ОГП. Зарobленымі грашыма гаспадарыць будзе школьнае самаўпраўленне.

**Мікалай Няплоха**




### ДУБ

Дубэ старасці,
парахняку
стары!
Ты скажы, ты скажы! Усім людзям,
што ты бачыў,
пражыў,
говоры!
Чом ты ціха стаіш?
Як дзіця,
што нічого не знае.
Говоры!
Бачыш, людэ чэкают,
а ты ніц не говорыш,
но шуміш
і моўчыш.

**Я. Нікіцюк**

### АЖАНІЎСЯ

*Чутна раз было на свеце,*
*Як хацеў жаніцца Пеця.*
*Пабег па цётачку Кіліну*
*І суседку Агрыпіну.*
*Тут з літроўкаю Тарас,*
*Такі звычай быў у нас,*
*За сталом яны паселі,*
*Усіх дзевак абсудзілі,*
*— Ганна — добра гаспадыня,*
*Садзіць вельмі многа дыняў, —*
*Так усе прыгаварылі.*
*Пецю з Ганнай ажанілі.*
*Пражыў Пеця ўжо паўгода,*
*Стала кепска, невыгода,*
*Бо ён сам не ажаніўся —*
*Да рад цёткі прыхіліўся.*
*Хто яшчэ не ажаніўся —*
*Каб да рад ён не хіліўся!*
*Выбірайце жонак самі,*
*Будуць добра жыці з вамі.*
*Абымі і пацалуй,*
*Добра падзівіся,*
*Дзеўчыну не абмані,*
*З ёю ажаніся!*
*Тады будзеш шчасце мець,*
*Добра жыць з сям'ёю,*
*А як нос саджае цётка,*
*Гані качаргою.*

**М. Лук'янюк**

берaглі зброю для вас. Я гэтую зброю аддаю вам і прашу прыняць мяне ў атрад.

Камандзір адказаў не адразу. „Ляснік, відаць, з галавой. Сапраўдны патрыёт. Пашанцавала нам, вельмі пашанцавала, што сустрэлі такога чалавека, — думаў Кірыла Арлоўскі. — Але ў Халецкага вялікая сям'я. Трэба асцярожна, вельмі асцярожна падтрымліваць з ім сувязь, захоўваць найстражэйшую, жалезную канспірацыю“, — зрабіў ён вывад і, звяртаючыся да лесніка, сказаў:

— Вялікае дзякуй, Васіль Сцяпанавіч, за зброю, за жаданне ўступіць у нашу групу. І з гэтага дня мы лічым вас нашым байцом, правільней — разведчыкам, нашымі вачыма і вушамі. Згодны?

— Згодзен! Дзякуй за давер, таварышы, — Халецкі з удзячнасцю паціснуў рукі Арлоўскаму і Івашкевічу.

Неацэнную дапамогу „Сокалам“ аказвалі Васіль Халецкі, яго сябры-леснікі браты Аляксандр і Павел Пінчукі. Ляснiцтва ператварылася ў разведвальны пункт атрада. Ніводзін падазроны чалавек, што праяўляў цікавасць да Машукоўскага лесу і яго насельнікаў, не мінуў пільных вачэй леснікоў-разведчыкаў.

(Працяг будзе).

## Каб не той возік...

У кастрычніку давялося мне пабываць у Кузніцы Беластоцкай. Як усім вядома, прыгранічная гэта станцыя. Едучы туды, у поездзе думаў я, што спаткаю непаладкі. І што будзе артыкул на паўстаронкі „Трыбуны карэспандэнтаў“. Але нічога з гэтага не выйшла.

Станцыя і яе ваколіца ў належным парадку, вуліца Беластоцкая чыста замецена. Каля пастарунка міліцыі вялікі парадак, на пошце чысціня, як бы міністра чакалі. І так каля ўсіх устаноў — каля прадшколля, школы, крамаў ГС і прыватных сяліб.

Ладны і прыемны гарадок Кузніца. Ды як рэдакцыі вядома, я люблю шукаць дзіркі ў цэлым, і аж мне лягчэй робіцца, калі яе знайду. І вось... удалося!

Стаю на пероне, падстаўляюць поезд і бачу: пасярэдзіне перона стаіць пакінуты гастранамічны возік на гумовых калёсах без паветра, адкрытыя дзверцы. Пытаюся жыхароў Кузніцы, чый возік і як даўно ён стаіць тут? Аказваецца, што гэта возік „Варсу“ — рэстарана на станцыі Кузніца. А чаму тут стаіць — ніхто не ведае. Варта схаваць той возік, прыдасца на наступнае лета.

**Вірскі**

## Вось дык загады!

Кожны год з наступленнем халадоў пачынаецца ацяпленне цягнікоў і службовых памяшканняў. Гавораць, што быццам бы ад 2 кастрычніка. Аднак, заўсёды працаўнікі чыгункі найбольш маюць з гэтым клопатаў. Бо, уявіце сабе, даражэнькія, падарожжа ў палове кастрычніка з Чаромхі ў Беласток неабагрэтым цягніком?! Чалавек куліцца ад холаду, а выхаду ніякага. Трэба ж ехаць! Пехатою не пратопаеш 70-80 км.

Гэтую праблему пачуў я ад кіраўнікоў цягнікоў у канцылярыі начальніка чаромхаўскай станцыі. Чаму не ацяпляюць цягнікоў ад 1 кастрычніка?

Няўжо цэнтральная дырэкцыя ПКП у Варшаве хоча весці ашчаднасць коштам здароўя пасажыраў і абслугі? Бо, як мяне інфармавалі працаўнікі чаромхаўскай станцыі, гатовыя і спраўныя ацяпляныя вагоны чакаюць у Гайнаўцы толькі загаду „вярхушкі“, каб уключыць іх у поезд. А тут невядома, калі загад такі прыйдзе.

Мне здаецца, што можна весці эканоміку, ды не коштам чалавечага здароўя! Варта аб гэтым памятаць!

(К-УС)

## У Белавежы пасля сезона

Турысцкі сезон у Белавежы ўжо закончыўся. Праўда, экскурсіі яшчэ сюды прыязджаюць, ды ў невялікай колькасці. Большы рух назіраецца толькі ў нядзелі. Гэтак будзе цэлую восень. Асабліва мала наведвальнікаў аднатуецца ў канцы лістапада. Так ужо тут бывае штогод.

Да канца верасня Белавежу наведала каля 113 тыс. чалавек, г.зн. на 4% больш, чым у аналагічным перыядзе мінулага года. Затое паменшыўся на 3% лік замежных наведвальнікаў. За 9 месяцаў было іх тут каля 5 тыс. з 49 дзяржаў (найбольш з СССР, Францыі, Чэхаславакіі, ФРГ, ЗША і Галандыі). Сустракаліся нават прадстаўнікі такіх экзатычных дзяржаў, як Эквадар, Кенія, Калумбія, Кітай, Дагамей, Сенегал.

У сёлетнім сезоне не было вялікага клопату з харчаваннем. Прыезджыя звычайна маглі паабедаць на месцы, у Белавежы. Рэстараны „Зуброўка“, „Сарэнка“, гасцінічны і „Турысцкі“ бары працавалі поўнай парай. Толькі ў спажывецкіх крамах, як штогод, забеспячэнне прадуктамі было на вельмі нізкім узроўні. Дрэнна прадстаўлялася справа з начлегамі, ды трагічна яшчэ не было. Найгорш бывае ў кожным сезоне з ноймам экскурсаводаў. Гэты год не прынёс ніякага паляпшэння. Іх увесь час не хапае.

Зусім кепска было з даведнікамі аб пушчы. Былі ў продажы толькі 4 брашуры з серыі „Усё пра Белавежу“, выдадзеныя ў 1970 годзе. Не хачу аб іх нічога дрэннага сказаць, хаця яны ўжо крыху неактуальныя. Турыста задавальняў бы невялічкі альбомчык, але багата ілюстраваны, з каляровымі здымкамі і недарагі. Але калі б быў крыху і даражэйшы, таксама разышоўся б увокамгненне. Пад канец сёлетняга сезона не хапіла нават карты Белавежскай пушчы.

**Пётр Байко**
Фота аўтара



*Прыродазнаўчы музей у Белавежы наведала да канца верасня 98.573 асобы.*



*Стаянкі аўтамабіляў былі запоўнены цэлы сезон. На здымку фрагмент стаянкі ля пошты.*

## Пачэсная ўзнагарода

Сярод жыхароў Чаромхаўскай гміны ёсць шмат людзей, якія дасягнулі немалых поспехаў у свінагадоўлі і жывёлагадоўлі, у вырошчванні збожжавых культур. Яны не хваляцца сваімі дасягненнямі, не хочуць нават, каб хтосьці ўспамінаў аб гэтым. Аднак немагчыма не сказаць пра тое, чым павінен ганарыцца кожны грамадзянін.

**Галена і Дзімітр Назарук** з Волькі Тэрахоўскай прадалі ў мінулым годзе дзяржаве 32.850 літраў малака. У пераліку на 1 га дае гэта 5.298 літраў. Сярэдняя ад каровы 3.650 літраў.

Назарукі гадуюць 19 шт. быдла, у тым ліку 9 кароў. Апошняе — гэта маладняк. Працуюць на 6,20 га.

За заслугі ў жывёлагадоўлі атрымалі ганаровую грамату — званне ваяводскага майстра па прадукцыі малака. Апрача таго, за І месца ваяводская ўправа прызнала ім рэчавую ўзнагароду на суму 20 тысяч зл.

**Вераніка і Мікалай Міхальчук** з Волькі Тэрахоўскай у мінулым годзе прадалі дзяржаве вяпручкоў агульнай вагі 7.251 кілаграмаў. Гэта ў пераліку на 1 га дае 4.352 кілаграмы. Корм для свіней у 45% Міхальчукі купляюць на ГС-аўскіх складах. Працуюць яны ў каапераццыі з кааператывам сельскагаспадарчых гурткоў у Кляшчэлях.

Вераніка і Мікалай Міхальчук занялі II месца ў ваяводстве і атрымалі ганаровую грамату ваяводскага віцэ-майстра ў пастаўцы мяса за 1975 год. Ім прызнана рэчавая ўзнагарода на суму 15 тысяч зл.

**Яўгенія і Васіль Астапковіч** з ст. Чаромха ў 1975 г. прадалі дзяржаве 6.382 кілаграмы мяса. У пераліку на 1 га атрымоўваецца 1.329 кг. Корм для свіней толькі ў 20% купляюць на дзяржаўных складах, а рэшту атрымоўваюць са сваёй гаспадаркі.

За заслугі ў свінагадоўлі ім прызнаны сярэбраныя значкі „Заслужаны для Беласточчыны“.

**Мікалай Маркевіч, с. Аляксея,** з Кузавы — перадавы гаспадар вёскі. Спецыяльнасць яго — гэта вырошчванне збожжавых культур.

За дасягненні ў сельскай гаспадарцы Рада Дзяржавы прызнала яму Бронзавы Крыж Заслугі.

**Уладзімір Маркевіч** з Беразішчаў, добры гаспадар, прыкладны селянін. Член ПАРП. Як старшыня камісіі па справах ладу і парадку ў гміннай управе актыўна дзейнічае ў працах той камісіі.

Рада Дзяржавы прызнала Ул. Маркевічу Бронзавы Крыж Заслугі за выдатную працу і дасягненні ў сельскай гаспадарцы.

Шчыра віншуем пераможцаў і жадаем ім яшчэ большых поспехаў у развіцці сельскай гаспадаркі.

**Ул. Сідарук**




**Люба Саковіч,** Юшкаў Груд. Пішыце вершы і працуйце над імі. Пра дажынкі ў Пяньках спадабаўся.

**Я. Нікіцюк.** У вас цікавыя вершы, толькі звярніце ўвагу на правапіс. Пісаць дыялектнай мовай можна, але і тут нельга ўсяго адкінуць. Правапісу вашага прозвішча, напрыклад, так, як вы прапануеце, не можам прыняць. А вершы будзем друкаваць.

**М. Панфілюк,** Інфармацыі „Цяжка“ не надрукуем.

**Мікалай Наумюк** з Кленік шле пажаданні:

Будзь здароў, Аркадзь Леўшук,
Малады вясковы наш паэт.
Ты жыві нам многа лет,
Здольнасці свае ты раскрывай,
Многа вершаў у „Ніву“ прысылай!
Няхай людзі весела чытаюць,
Няхай вершы твае памятаюць,
А цябе ўсё жыццё паважаюць.

**Валянцін Анапюк.** Ці актуальная інфармацыя аб надпісе ў мушлі ў Бельску? Калі так, хуценька яе нам нанава дашліце.

„Niwa“ — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch“. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu“, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

# Хоць касой касі

Не люблю я, калі гавораць: „Ой, і грыбоў жа ў лесе! Хоць касой касі!“ Чакалі яны там цябе... Ведаем мы гэтыя грыбы. Самі збіралі. І тое-сёе бачылі.

Неяк мясцком паднаціснуў на адміністрацыю, і тая дазволіла выехаць у лес на службовым аўтобусе.

Па дарозе спявалі. Жанчыны — пра Янку, а мужчыны — як Ясь касіў канюшыну. На 117-м кіламетры ў прэферанс гуляць пачалі. Затым у нейкай вёсцы ў магазін заскочылі. Там было піва і яшчэ тое-сёе... Узялі. Не дачакаўшыся заезду ў лес, перакусілі. Мужчыны сталі падпяваць жанчынам. У тры гадзіны дня напаткалі лясок. Але дужа няўдалы — яшчэ мокры ад дажджу. Ніхто не хацеў лезці ў гэтыя ёлкі-палкі...

Скончылася піва, і мы зноў паехалі шукаць магазін. Знайшлі. Але піва там не было. Відаць, іншыя грыбнікі ў ім раней за нас пабывалі. Жанчыны сталі гаварыць, што абыдзецца і без піва. Мужчыны не пагадзіліся! Ці варта было тады наогул ехаць! І адправілі з кошыкам у другі магазін Сцяпана.

Пад вечар зноў знайшлі лес. На гэты раз бярозавы гай, і сухі. Высыпалі з аўтобуса і выбралі месца пад дубам. Усім дужа спадабаліся салёныя рыжыкі. Тры разы ўзнімалі тост за работніцу АТК Лену Лапкіну, за добрае прыгатаванне рыжыкаў. Пеця Шчупачок адразу пачаў лавіць кароткія хвалі „Акіянам“, але ледзь не выкалаў антэнай вока бухгалтару Балыкіну. Іван Цімафеевіч пакрыўдзіўся. Ён адышоў убок і паклаў галаву на мох. Два чалавекі ў гэты момант палезлі на дуб шукаць жалуды. Жанчыны завялі размову пра абновы. Майстар Зюкін накіраваўся далей у лес слухаць салаўя. Усё было добра, пакуль яго сын не распаліў касцёр побач з пярэднім колам аўтобуса. Шафёр раззлаваўся і пачаў пагражаць неадкладным ад'ездам. Завёў матор. Усе адразу пабеглі да машыны. Паехалі. Да поўначы былі дома.

Так што не кажыце — ведаю я гэтыя грыбы! Калі не возьмеш з сабой салёных рыжыкаў, дык і не паспытаеш...

**Васіль Найдзін**

# НІЎКА

*Без слоў.*

## ІЛГУН

*Не ўсіх жа крыўды боль глыжэ,*
*Сяму-таму і смешна:*
*— Ну што ж, няхай крыху сглжэ*
*І нас пацешыць, грэшных.*
*Хай гне, нібы мядзведзь, дугу,*
*Перабірае меру,*
*На тое ж ён і ёсць ілгун,*
*Ніхто яму не верыць.*
*Нарэшце, сам ён так зблажэў,*
*Як не блажэў мо зроду,*
*А людзям смех:*
*— Зблажэў? Ілжэ...*
*Яму б цягаць калоды.*

*Праз месяц громам навіна:*
*— Памёр...*
*— Вы што? Крый божа...*
*Ці ж мы не знаем ілгуна —*
*Ён не такое можа...*
*Яму ва ўсім — абы салгаць.*
*Нас, дурняў, акалпачыць...*
*І дол ніхто не йдзе капаць,*
*Ніхто па ім не плача.*

*Пара сасновую труну*
*Сяк-так бы збіць, хоць коса...*
*Ды як паверыць ілгуну —*
*Пакінуць можа з носам.*
*Ляжыць адзін... І смерць з касой*
*Прысела не ў пацеху,*
*Маўчыць заўята — ёй адной*
*На свеце не да смеху.*
*Глыжэ касцявую туга...*
*У жыцці ж не на паперы —*
*Калі ўвесь час вось так ілгаць —*
*І ў праўду ж не паверыць.*

**Алесь Бачыла**

## ВАДЗІЦЕЛЬ

Інструктар правярае пачынаючага вадзіцеля:

— Уявіце сабе, што ў вас на поўным ходзе адляцела кола. Што вы будзеце рабіць?

— Прыбаўлю газу і пастараюся дагнаць яго.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Я хацеў бы застрахаваць свой дом ад пажару.

— Сядайце, калі ласка, і пачакайце крыху, зараз з вамі зайймуся.

— Ці нельга хутчэй, сіньёр, а то дом ужо гарыць!

✲

— Я быў сёння ў Белмонт-парку на скачках. Перад адным з заездаў са мною здарылася дзіўная гісторыя. Разумееш, я нагнуўся, каб завязаць шнурок на чаравіку, і нейкі блізарукі жакей ускочыў мне на спіну, быццам у сядло, і ўсадзіў мне шпоры ў бакі.

— І што ты зрабіў?

— Што мне заставалася рабіць? Давялося прыйсці да фінішу першым.

✲

У рэстаране:

— Агідная, ад гэтага шніцэля пахне алкаголем!

— А цяпер, мадам? — пытае афіцыянт, адышоўшы на два крокі.

**...Песня не ўзяла слухачоў за душу, затое спявак узяў за песню.**

## МІКОЛКА

— Ціха! — гаворыць настаўнік. — Сядзіце так, каб было чутна, як пралятае муха!

Наступіла мёртвая цішыня. Урэшце Міколка не вытрымаў і закрычаў:

— Ну чаго ж вы чакаеце? Пускайце муху!

## ВЫПАДАК

Позна вечарам у кватэры доктара раздаўся тэлефонны званок. Званіў калега. Патрабаваўся чацверты партнёр для партыі ў брыдж.

— Зараз еду, — сказаў доктар.

— Што-небудзь сур'ёзнае? — спытала жонка.

— Цяжкі выпадак, сабраўся кансіліум.

## ЗВЫЧКІ

Маладая жонка гаворыць мужу:

— Дарагі, мне так цяжка адразу адмовіцца ад сваіх дзявочых звычак...

— І не трэба, дарагая, працягвай браць грошы ў свайго татулькі, як быццам нічога не здарылася!



ГУМАР З ...

## МУШФІКІ І ВЯРХОЎНЫ СУДДЗЯ

Адзін бай спраўляў вяселле і паслаў Мушфікі запрасіць на яго вярхоўнага суддзю.

Мушфікі, як звычайна, бесцырымонна зайшоў у двор суддзі і гэтым вельмі разгневаў яго. Суддзя ўскіпеў:

— Няўжо бай не знайшоў парадачнага чалавека, каб перадаць сваё запрашэнне, а прыслаў такога асла, як ты?

— Пане! Бай усіх людзей паслаў запрашаць людзей, а мне даручыў якраз вас запрасіць!

*— Даражэнькая, пакуль я з табой размаўляла — восень наступіла.*

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Галены Усцілка з Кнышэвіч і Ірыны Несцярук з Дубіч Царкоўных змяшчаем песню

## Czemu mnie nie chcesz

**słowa: Jacek Korczakowski**
**muzyka: Adam Skorupka**
**śpiewa Teresa Tutinas**

Gdy idzie wiosna Krakowskim Przedmieściem,
Czemu mnie nie chcesz,
Czemu mnie nie chcesz?
Pora na kwiaty i sezon na szczęście,
A ty mnie nie chcesz —
Czemu mnie nie chcesz?
Czego no powiedz mi brak,
Że ty mnie nie chcesz aż tak?
Gdy idzie wiosna Krakowskim Przedmieściem,
Czemu mnie nie chcesz,
Czemu mnie nie chcesz?
Szczęście, nieszczęście, fortunę, zamęście
Wróżył mi ktoś i co?

Ze mną kłopot niewielki
I zmartwienia jak groszek,
Popatrz na mnie, no, proszę —
Spytaj kogoś, kto znał.
Ze mną kłopot niewielki
Radość może być spora,
Radość może być spora,
gdybyś chciał.

Lecz lato płonie już w niebie i w sercu
A ty mnie nie chcesz,
Czemu mnie nie chcesz?
Choć taki upór jest całkiem bez sensu,
Jednak mnie nie chcesz,
Czemu mnie nie chcesz?
Upał uderza do krwi,
Wszystkich to bierze, a ty —
Gdy lato płonie już w niebie i w sercu
Ciągle mnie nie chcesz,
Czemu mnie nie chcesz?
Gdy pary w mrok się rozchodzą o zmierzchu,
Czemu wśród nich brak nas?

Co ja komu zrobiłam,
że takiego mama pecha,
Ten i ów się uśmiecha,
Ale nigdy nie ty...
Ten i ów się uśmiecha,
Lecz to ciebie nie tyczy,
Chociaż inny z tych przyczyn
Byłby zły

Gdy jesień przyjdzie i chłód przejmie mrowiem,
Wtedy mnie zechcesz,
Wtedy mnie zechcesz —
Wtedy się zdziwisz, bo wtedy się dowiesz,
Że ja cię nie chcę,
że cię już nie chcę.
Będzie ci żal, będzie żal.
że inny wcześniej mnie chciał.
Gdy jesień przyjdzie i chłód mrozem przejmie,
Wtedy mnie zechcesz,
Wtedy mnie zechcesz.
Sam się przekonasz, jak to jest przyjemnie,
Gdy ktoś cię nie chce tak.

# Курёзы

## ЖОНКІ НА ЎЦЁКАХ

„Я пакідаю цябе. Мяне не шукай“. Цяпер такія запіскі ў Злучаных Штатах пішуць часцей жонкі, чым мужы. Раней было наадварот. У 1960 годзе, напрыклад, на трыста мужоў, якія зніклі ў невядомым напрамку, прыпадала адна збеглая жонка. Цяпер жа прапорцыя — два да аднаго „на карысць“ жонак.

Гэтыя падлікі належаць фірме „Трэйс компані оф Амерыка“, якая займаецца прыватным вышукам па заказах пакінутых мужоў і жонак.

Хто ўцякае? Прэзідэнт „Трэйс компані“ Эд Гольдфабер малюе абагульнены партрэт: жанчына 35 гадоў, у якой дзеці падраслі ўжо дастаткова, каб самім аб сабе паклапаціцца. І ўцякаюць, падкрэслівае Гольдфабер, „ад абрыдлага мужа, а не да кагосьці“.

Чаму ўцякаюць? Галоўная прычына, на думку ўсё таго ж Гольдфабера, — імкненне ўсталяваць сваю чалавечую годнасць.

Самы нашумелы выпадак — уцёкі Анжэлікі Аліста, жонкі мэра Сан-Францыска, маці шасцярых дзяцей. Яна рассталася з дабрабытам і славай, каб скінуць сямейныя путы... Вярнулася сама на 16-ы дзень.

## ХТО ВЫШЭЙ!

Рост у фіна Каянуса складаў 2 метры 83 см, аўстрыйца Вінцэльмеера — 2 м 78 см, эльзасца Красу — 2 м 75 см, англічаніна О. Брыка — 2 м 68 см, японца М. Іосіміцу — 2 м 31 см.

Між намі

*Калі нехта губляе сумленне, чаму яго ніхто не знаходзіць?*